VII. ЛІПЕНЬ — ЖНІВЕНЬ 1929 г. Кніжка 7-8 (27-28)




# Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

ЗЬМЕСТ:



**Цана асобнага нумару 30 гр.**

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6—10

# З практыкі для практыкі.

**Хуткае выкарчоўваньне пней.** Сякуць увосень дрэва нізка каля самай зямлі, робяць пасярэдзіне камля дзюрку шырынёй у пацярэчніку 1—1 1/2 вярш. і 10-12 вяршк. глыбінёй; набіваюць дробна паталочанай сялітры (10—12 зал.); даліваюць вадой; шчыльна дзюрку забіваюць дрэўляным гваздом і пакідаюць пень да вясны. Вясной гвозд выбіваюць, заліваюць нафтай і запальваюць. Пень і карані выгараюць зусім.

**Перахоўвваньне памідораў на зіму.** Прыгатаўляецца рашчына з роўных па вазе частак солі і воцата; потым на тры часткі гэтай рашчыны дабаўляюць сем частак вады (атваранай і прастуджанай). Потым у шырокагорлую банку кладуць сьпелыя, чыстыя памідоры і заліваюць банку рашчынай амаль даверху. На самы верх заліваюць праванскага масла таўшчынёй каля вяршка. Шчыльна закаркоўваную банку дзержаць у сухім месцы. У такім відзе памідоры могуць перахоўвацца ўсю зіму.

# САХА

Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Вынікі аграрнай рэформы ў нас.

Мінула ўсяго 9 гадоў са дна ўхвалы першым заканадаўчым Польскім Соймам уставы аб аграрнай рэформе. 9 гадаў назад, здавалася, само паветра разносіло лёзанг: «зямля працоўнаму сялянству». Зразумела, што ні Урад, ні першы Сойм у Польшчы ня маглі не зьвярнуць увагі на гэтае рашучае і дружнае трэбаваньне з боку сялянства і так ці інакш на яго рэагаваць, тым больш, што тады ураду прышлося весьці небясьпечную вайну са Усходам, дзе адбываліса падзеі, магучыя перанесьціся далей на Захад. Пад націскам гэтых падзеяў тагочасны Польскі Сойм ухваляе цэлы шэраг »дэмакратычнага характару« устаў, у тым ліку і ўставу аб «аграрнай рэформе». Але скончылася вайна, мінула небясьпека з боку усходняе граніцы Рэспублікі — і ўстава зрабілася на час непатрэбнай кіруючай клясе, якая і пахавала яе на самым дне глыбокага міністэрскага партфелю.

Зьбіраецца другі Польскі Сойм. Усе так званыя »лявіцовыя« польскія нарты ізноў сьпекулююць абяцанкамі аб пэраглядзе ў Польшчы зямельнага пытаньня. Абаламучанае сялянства, асябліва на Беларусі, дае свае галасы тым, хто больш шчодры на абяцанкі. Зьбіраецца Сойм, больш «лявіцовы» за папярэдні і здавалася, што цяпер «аграрная рэформа» будзе праведзена ў жыцьцё. Сялянства чакае. На рэшце Сойм на паседжаньні ад 31-VII-25 года з лагодным «пратэстам» «лявіцовай» у часе выбараў опозыцыі ўхваляе... але абязуючаю ўставу аб асадніцтве «Усходніх Крэсаў», парцэляцыі панскіх двароў з вольнае рукі, ліквідацыі сэрвітутаў і комасацыі. Беларускія і ўкраінскія прадстаўнікі працоўнага народу, бачачы, як на іх вачох робіцца гістарычная крыўда для свайго люду, пусьцілі ў ход адзінны даступны для іх спосаб пратэсту — вострую абструкцыю.

Устава прайшла «ў лявіцовым» Сойме, а вынікі яе беларускі малазямельны і безьзямельны гаспадар хутка адчуў на сабе. Вялізная частка двароў было распарцэлявана сярод вайсковага асадніцтва, а разам, уласьнік вялізных абшараў — памешчык пастараўся рэшту непатрэбных сабе двароў перавесьці на золата і даляры.

Парцэляцыя на Беларускіх землях ідзе найшпарчэйшым тэмпам і апераджвае другія часткі Польскае Рэспублікі. Гэта яскрава пацьверджае статыстычныя дадзеныя Міністэрства Аграрных Рэформ, якія гавораць, што на усходніх землях Рэспублікі *толькі ў граніцах ўставы* распарцэлявана па дзень 30-XII 1928 г — 39,5% агульнага запасу зямлі, як у той час, у Заходняе частцы — толькі 10 прац. Тэмп гэты ў нас ня толькі з часам слабее, але мае нахіл шпарка расьці. Так, па дадзенным таго-ж Міністэрства, за апошнія тры гады на ўсходніх «крэсах» парцэлюецца штогод 87,812 гэктараў, гэта значыць — адзіннаццатая часьць сучаснага запасу зямлі, а ў заходняй часьці — 7,060 гэктараў, ці 66-я часьць запасу.

Калі узяць пад увагу, што заходняя часьць Польшчы больш густа населена, дык стане зразумелым, што пад «аграрнай рэформай» хаваецца ня толькі рэальныя патрэбы сялян....

Цяпер прасачым за галоўным: куды пайшла парцэляваная з вольнае рукі зямля (ня будзем тут разглядаць вайсковай парцэляцыі, якая адносіцца да катэгорыі «прымусовай»)

Сама істота вольнае парцэляцыі гаворыць, што малазямельны і безьзямельны наш селянін зямлі па гэтай «зямельнай рэформе» набыць ня можа, хаця-б па тэй усім вядомай прычыне, што ў яго няма за што заплаціць гатоўкай, а лічыць сягоньня на дапамогу Banku Rolnego, хіба ня прыходзіцца. Дык зразумела што парцэляцыя з вольнае рукі бяднейшае сялянства абмінае. Гэта і падьверждае урадавая статыстыка. Па дадзеным Міністэрства Агранных Рэформ, у Польшчы сялян малазямельных, маючых менш 5 гэктараў, налічвалася каля 2.000.000 (у гэты лік

ня ўходзяць батракі). З «аграрнай рэформы» да 30-XII 1928 г скарыстала ўсяго 6,8 прац. малазямельных сялян і быццам яшчэ мае скарыстаць да 1936 г.— 13,8 прац., ус го значыць будзе «ашчасьлівена»—20,6 прац. Калі возьмем пад увагу магчымы прырост насельніцтва і драбленьне сельскіх гаспадарак, дык да часу вычарпаньня запасу зямлі, што мае распарцэлявацца «з ласкі» абшарніка да 1936 г., трэбі спадзявацца, што малазямельных гаспадароў прыбудзе ня менш 10 прац Дык значыць, што абязуючая ўстава аб «аграрнай рэформе» «задаволіць» усяго толькі 10 прац. бяднякоў сялян, а 90 прац. малазямельных (ня лічучы безьзямельных) сялян устава сьведама абмінае, Гэты прац. ў нас на Беларусі, дзе энэргічна праводзілася асадніцтва і прыватная колёнізацыя, трэба яшчэ павялічыць.

Вось рэальныя вынікі ў нас «аграрнай рэформы». Яе кульганьне заўважана абшарніцкай прэсай, якая адкрыта на шпальтах сваіх органаў лічыць патрэбным і нават патрыятычным скасаваць і затрымаць за сабою рэштку двароў, заклікаючы урад спыніць далейшую акцыю «усялякае парцэляцыі зямель», каб гэтым не дразьніць неўгамонныя апэтыты на зямлю вёскі, а ўвагу апошняе скіраваць на ліквідацыю сэрвітутаў і комасацыю

Як відаць, гэтымі сурагатамі «аграрнае рэформы» наша вёска і будзе карміцца.

# Сартовае насеньне Беларусі.

За апошнія годы мы бачым вялікае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ва ўсіх яе галінах. Павялічваецца плошча пад пасевамі, павялічваюцца і ўраджаі ўсіх расьлін, але ўсё гэта кажа, галоўным чынам, аб росьце сельскай гаспадаркі ў колькасьці. У далейшым можна спадзявацца, што будзе яшчэ большае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі і будзе больш зьвернута ўвагі на якасьць нашых с.-г. продуктаў. Цяпер у нас павінна стаць на першым месцы барацьба за якасьць продукцыі.

Гэта ў першую чаргу будзе датычыць паляводзтва, дзе трэба зрабіць замену нашага малапрадукцыйнага, дробнага насеньня, палепшаным, сартовым насеньнем. Зьмену гэту трэба зрабіць як найхутчэй, бо калі поле будзе зася-

ваццa сартовым насеньнем, то павялічацца і ўраджаі. Даныя расійскіх і замежных дасьледчых станцый сьведчаць аб павялічэньні ўраджаяў у сярэднім на 20 проц. ад засеву сартовым насеньнем, якое падыходзіць да мясцовых умоў. Гэта знача, што калі дзесяціна пасеву давала там 50 пуд. зярня, то пры замене сартовым насеньнем дае 60 пуд.

Замену звычайнага насеньня сартовым трэба рабіць арганізаваным парадкам. Калі адзін селянін пасее на сваёй паласе сартовае жыта, а сусед яго засее простае, то сартовае жыта за некалькі год зьвядзецца ад скрыжованага апылкаваньня*).

Каб сартовае насеньне так хутка ня зводзілася, сялянам патрэбна цэлымі сёлішчамі ці даволі вялікімі аб'яднаньнямі сеяць такое насеньне. Дзеля гэтага неабходна арганізаваць насеннаводныя таварыствы, якія будуць паляпшаць насеньне. Гэтыя таварыствы могуць паляпшаць рознае насеньне, або якое-небудзь адно.

Цяпер ужо арганізавана некалькі насеннаводных таварыстваў. Па даных Белсельсаюзу, у яго лічацца членамі насеннаводныя таварыствы: два Менскай акругі, адно Бабруйскай акругі і адно Магілеўскай.

Нетаторыя з гэтых насеннаводных таварыстваў, як напрыклад Магілеўскае, маюць ужо даволі значную плошчу пад пасевамі палепшанага насеньня (гл. таб.).

Пасевы ў Магілеўскім насеннаводным т-ве за 1925 г.

| №№ па парадку | Назва расьлін | Сорт | Дзес. | Ураджай на 1 дзес. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Жыта . . . . . | Пробштэйнскае . | 3 | |
| | „ . . . . . | Іванаўскае . . | 17 | |
| | „ . . . . . | Петкускае . . | 3 | 60 пуд. |
| | „ . . . . . | Шампольскае . | 2,5 | |
| 2 | Авёс . . . . . | Эха . . . . | 89 | 65 „ |
| 3 | Ячмень сэлекцыйны . | | 451 | — |
| 4 | Зімовая пшаніца . . . | Высока-літоўская | 12 | 80 пуд. |
| 5 | Лубін сіні . . . . | | 46 | 80 „ |
| 6 | Канюшына . . . . | | 85 | 10 „ |
| 7 | Выка . . . . . | Мясцовая . . | 12 | 55 „ |

Акрамя таго, насеннаводныя таварыствы могуць арганізаваць такі пункт, дзе ачышчаюць зярно і сартаваньнем палепшаюць насеньне, засяваючы толькі лепшы, першасортны матэрыял.

Пераходзячы да пытаньня аб сартох, якія маюцца ў Беларусі, трэба скакаць, што выведзеных сартоў палявых расьлін у Бнларусі амаль няма. Нашы дасьледчыя ўстановы яшчэ не займаліся гэтым пытаньнем. Большай часткаю да нас прывозілася сартовае насеньне з Нямеччыны, Прыбалтыкі і др. месц памешчыкамі ў свае маёнткі і ад іх яно вельмі мала пашыралася ў сялянскіх гаспадарках. Дзеля таго-ж, што і сартовае насеньне з бегам часу ад скрыжованага апылкаваньня, дрэннага поля і інш. зводзілася, то зразумела, што за апошнія 10 год гэта сартовае насеньне

Сарты жыта, якія разводзяць саўхозы Белсельтрэсту па даных 1925 г.

| Назва жыта | Плошча ў дзес. | Сярэдні ўраджай на 1 дз. | Акругі | Назва саўхозаў |
|---|---|---|---|---|
| Петкускае . | 226 | 70,6 | Менск. і інш. | Зазерра, Кухціцкая гр. |
| „ „ . | 218 | — | Аршанская | Бабініцк. гр., Высокае, Межава і інш. |
| Пробштэйнскае | 221 | 96 | „ | Леніна |
| „ | 75 | — | Менская | Смалявічы, Навасёлкі, Новы Двор і інш. |
| „ | 71 | 94 | Слуцкая | Пагост |
| Іванаўскае . | 386 | 105,3 | „ | Івань |
| „ . | 128 | 88,8 | Магілеўск. | Буйнічы |
| | | 68,3 | „ | Дашкаўка |
| | | 64 | „ | Лутчыцы |
| | | 44,5 | „ | Грудзінаўка і інш. |
| Шацкае . . | 945 | 89 | Менская | Вязынская група |
| | ва ўсіх раён. | — | „ | Лагойская, Нова-Зелвакоўск. гр. і інш. |
| | | 85 | Слуцкая | Баранчыцы |
| Трасьніковае . | 43 | 86,8 | „ | Старчыцы і др. |
| „ . | — | 130 | Менская | Савічы |

саўхозаў ужо зьвялося. Але гэты пасяўны матэрыял саўхозаў, значна лепшы чым наша простае насеньне і дае большы ўраджай і лепшае якасьці, чым мясцовае насеньне. Акрамя таго, насеньне саўхозаў прыстасавана ўжо да нашых мясцовых умоў; зразумела, што яно павінна пашырацца ў сялянскіх гаспадарках.

На гэтым чыстасортным насеньні суўхозаў, Белсельтрэсту мы зараз застановімся, паказваючы іх ураджаі. Аднак называць будзем „сартамі“ з паказаным абмежаваньнем.

Сарты аўса, якія разводзяць у саўхозах Белсельтрэста па даных 1925 г.

| Назва сартоў | Плошча у дзес. ва усіх саўхозах | Сярэдні ураджай у саўх. на 1 дз. у пуд. | Акругі | Назва саўхозаў |
|---|---|---|---|---|
| Швэдзкі . . | 509 | — | Менская | Кухцічы, Сёмкава і др. |
| „ . . | — | 95,6 | Аршанская | Станіславава |
| „ . . | — | 63 | „ | Холаўе і др |
| Шацілаўскі . | 1169 | 63 | Бабруйская | Бацэвічы |
| „ . | — | 60 | Віцебская | Мазапава |
| „ . | — | — | Барысаўск. | Палелюм |
| „ . | — | 68 | Менская | Такарня |
| „ . | — | — | „ | Блонь, Зазерра і др. |
| Эха . . . | 330 | 80 | „ | Дукорская група |
| „ . . . | — | 68,5 | „ | Вязынская „ |
| „ . . . | — | — | „ | Саламарэцкая, Блоньская гр. |
| „ . . . | — | — | Аршанская | Леніна |
| Пабеда . . | 20 | — | „ | Холаўе |
| Запаты дождж | 279 | — | „ | У розных саўхозах |
| Лейцэвіцкі . | 9 | — | „ | „ „ |
| Гэрапецкі . | — | — | Бабруйская | Турская дасьл. станцыя |

**Сарты зімовай пшаніцы.** З сартоў зімовай пшаніцы ў нас пашыраны галоўным чынам адзін сорт — **высокалітоўскі.** Ураджай гэтай пшаніцы ў 1925 г. быў ад 98 да

120 пуд. з дзес. Яна ўжо даўно прыстасавалася да ўмоў Беларусі і заслугоўвае ўвагі нашага сялянства.

Цяпер коратка скажам аб тых мерапрыемствах, якія неабходны ў нас для палепшэньня насеньня і павялічэньня нашых ураджаяў у далейшым.

1. Трэба арганізаваць шырокую сетку насеннаводных таварыстваў для палепшэньня свайго насеньня і засяваць палепшанае сартовае насеньне цэлымі селішчамі.

2. Арганізаваць новыя і на ўсе 100 проц. скарыстаць старыя зерначысьцільныя пункты; сеяць толькі першасортным ачышчаным зярном.

3. Купляць ці абменьваць сялянскае насеньне на палепшанае насеньне, галоўным чынам у коопэрацыі.

5. Пашырыць працу па контролю насеньня.

У гэтым годзе пачынаецца праца па вывядзеньню новых сартоў насеньня на Горацкай дасьледчай станцыі. Дзеля гэтага трэба скарыстаць той цэнны мясцовы насенны матэрыял, які ёсьць у нас у Беларусі. Гэта насеньне, як больш прыстасаванае да ўмоў Беларусі, можа быць добрым матэрыялам для вывядзеньня новых цэнных сартоў.

М. Савіцкі.

# Мокрая або сьмярдзючая сажа пшаніцы.

Сярод грыбных хвароб на раслінах асаблівай увагі агранома і гаспадара-практыка павінна заслугоўваць сажа на збожжы. У нас сярод культурных раслін сустракаецца сажа на пшаніцы, ячмені, аўсе, жыце і просе. Аднак, у гэтым артыкуле мы застановімся толькі на сажы пшаніцы, хоць гэта культура (расьліна) яшчэ і ня вельмі пашырана. Але тым больш патрэбна апісаць гэтую хваробу, бо шмат сялян сеюць пшаніцу ўпяршыню і ад няўмелай яе культуры здымаюць нізкі і заражоны сажаю ўраджай. Праходзіць адзін-два гады спробы пасеву пшаніцы і гаспадар кідае гэтую вельмі даходную і цэнную культуру.

На пшаніцу нападаюць два віды сажы. Адну завуць пылаватаю сажаю (Ustilago tritici), а другую мокраю або сьмярдзючаю.

Першы від сажы (пылаватая) розьніцца ад другой, як характарам самага пашкоджаньня пшаніцы, так часам заражэньня насеньня, перазімоўкай і ўсім сваім жыцьцём. Вось чаму аб гэтай пылаватай сажы, як і аб падобнай да яе сажы на ячмені (Ustilago hordei Bref.) і часткаю сажы на аўсе (Ustilaho avenae lensen) патрэбна асобная гутарка. Там і спосабы барацьбы будуць адменныя.

У гэты раз затрымаемся толькі на мокрай або сьмярдзючай сажы пшаніцы. Гэта сажа пераважна шкодзіць па-

севам пшаніцы на поўдні нашага Саюзу, але заходзіць далёка на захад і поўнач. Праўда процант пашкоджаньня ад яе як быццам у нас бывае і меншы, але ўсё-ж прыметны.

Страты ўраджаю пшаніцы ад сьмярдзючай сажы ў нас, пры нізкім узроўні с.-г. культуры, яшчэ вельмі вялікія. Праф. А. А. Ячэўскі (старэйшы і выдатны расійскі знаўца грыбных хвароб расьлін) вёў нагляданьні за гэтым відам сажы на працягу 17 г. і сярэдняе зьніжэньне ўраджаю пшаніцы для некалькіх губэрняў Саюзу складаў аж у 29 проц.

У БССР мокрая сажа таксама звычайная зьява. Аб пашырэньні яе ў бытшай Менскай губ. піша праф. Ячэўскі ў сваіх „Ежигодниках" (1911 і 1912 г.) Аб пашырэньні мокрай сажы на пшаніцы ў 1926 г. піша праф. М. Н. Медзіш *). Па яго назіраньнях сажа сустракалася ўсюды, дзе сеецца пшаніца. У 1928 г. мне давялося правесьці агляд сялянскіх пасеваў пшаніцы ў Менскай акрузе і ўсюды знаходзіць пераважна мокрую сажу пшаніцы і значна менш пылаватую. Каб ведаць больш менш тыя страты, якія прыносіць малакультурнаму гаспадару сажа, я вылічваў сярэдні процант паражоных каласоў. Для некалькіх пунктаў паказваю лічбы:

| Месца пасеву пшаніцы. | Раён | Плошча дасьледв. пшаніцы ў гэк. | Сярэдні процант паражоных каласоў | Якое было насеньне |
|---|---|---|---|---|
| Саўхоз Ружампаль | Самахвал. | 3 | 2 | Не пратруч. |
| Вёска Забалацьце | Койданаўск. | 1 | 11 | „ |
| Саўхоз Вязын | Самахвал. | 10 | 10 | „ |
| Вёска Паледзі | Вузьдзенск. | 1/2 | 21 | „ |
| М-ка Койданава | Койданаўск. | 3/4 | 8 | „ |
| Х. Падгор'е | | 1/2 | 0,2 | Пратручана сінім камнем |

Як бачым, процант хістаецца, але сярэдні будзе трымацца каля 10. Гэта значыць, што адна дзесятая частка ўраджаю пшаніцы гіне, можна сказаць, па нядбайнасьці гаспадара. Чысты ураджай можа быць толькі тады, калі гаспадар сее пшаніцу ў першы год і сее чыстым насень-

*) Працы Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі 1927 г., стар. 71.

нем, або калі кожную вясну перад пасевам праводзіць пратручваньне насеньня. Што належыць да характару пашкоджаньня, дык ён больш-менш вядомы. Зароднікі грыбка заўсёды заражаюць пшаніцу вясною пры зьяўленьні ўсходаў. Далей грыбня сажы жыве ў расьліне. Там яна заходзіць у кожны лісток, ва ўсе сьцяблы. Расьліна адчувае сябе ня зусім нормальна, але не засыхае. Часта расьліна нават павялічвае лік сьцяблоў, але скарочвае іх рост у вышыню. Аднак пры спрыяючых умовах росту і заражоная расьліна можа даць здаровае зерня. У такім разе грыбня сажы як-бы не пасьпявае за ростам пшаніцы і дайшоўшы да коласа, гіне. У лепшым-жа выпадку для грыба сажы, калі расьліна расьце паволі, грыбня заходзіць у колас і тут прыносіць свае споры—зародкі. Замест здаровага зерняці ў зялёнай, пасінеўшай яго абалонцы гаспадар мае мільёны чарнаватага пылу-спор грыбка-шкодніка. Гэты пыл трымаецца абалонкаю зерня да часу прыборкі. Толькі колас з такім „ураджаем“ бывае лёгкі і стаіць на роўнай саломіне. Пры абмалоце пшаніцы пыл сажы проста курыць і масаю аблеплівае ўцалеўшыя зярняты пшаніцы.

Пры пасеве насеньня без пратручваньня споры сажы вясною будуць заражаць новы ўраджай. Акрамя гэтай страты, сажа яшчэ шкодзіць і тым, што яна забруджавае муку. Ад дамешкі сажы пшанічная мука робіцца чорнаю і сьмярдзючаю (мае пах папсаваных селядцоў), хутка сырэе і псуецца. Вядома, у прадажы такая мука—няходкі тавар.

Наколькі шкодна для чалавека дамешка сажы ў муцэ, яшчэ аднолькавых поглядаў няма. Аднак, можна сказаць, што калі яна і ня мае пэўных атрут, дык шкодна тым, што заходзіць у кроў чалавека, парушае яе нармальны бег і працу арганізма.

**Меры барацьбы.** Пераходзячы цяпер да мер барацьбы з мокраю сажаю пшаніцы, трэба сказаць, што яны даступны і к таму-ж неабходны для кожнага гаспадара. Добра было-б, каб у нас пачыналі ўводзіцца правілы абавязковага пратручваньня насеньня ад сажы.

Для пратручваньня найчасьцей бяруць або сіні камень і разводзяць яго да 1 проц. (лепш у цеплаватай вадзе*), або фармалін (1 частка фармаліна на 300—400 частак вады). У раствор сіняга каменя можна апусьціць насеньне на 3 — 5 мінут і пасьля прасушыць, або апрыскаць кучу насеньня, як і фармалінам. Куча насеньня пры змачваньні ўвесь час перамешваецца (для фармаліна яшчэ на 2 гадзіны прыкрываецца) і потым высушваецца. Сіні

*) На 400 гр. сіняга каменю бяруць 40 літр. вады.

камень можа часткаю зьніжаць усходжасьць, чаму пры сяўбе гэта прымаецца пад увагу.

Насеньне пшаніцы, якое мае сажу, яшчэ і ў цэлых зярнятках раіцца перш прамыць, а потым пратручваць. Пры заражонасьці пшаніцы ў полі звыш 10 проц. такі ўраджай трэба зусім бракаваць, як насеньне. Пры заражэньні-ж да 1 — 2 проц. можна высяваць і бяз пратручваньня.

Але апрача пратручваньня, гаспадару трэба ведаць і некаторыя агульныя прыёмы культуры пшаніцы, якія так ці інакш будуць зьніжаць процант пашкоджаньня сажаю. Напрыклад, назіраньні за жыцьцём гэтага грыбка паказалі, што ён вясной зараджае ўсходы куды больш процант, чым увесень, што мы назіралі па заражонасьці каласоў пшаніцы. Зразумелая рэч, што маглі быць і такія ўмовы, якія спрыяюць лепшаму і хутчэйшаму росту пшаніцы, чаму больш лік сьцяблоў пшаніцы перагнаў рост грыбні сажы.

Да такіх умоў можна прылічыць наступныя:

1) Наколькі можна больш позьні пасеў яравой пшаніцы і раньні азімай. Гэта палажэньне даволі выразна можна было наглядаць на досьледзе Менскай Агранстацыі „тэрміны пасеву азімай пшаніцы“ (1928 г.).

2) Глыбокая воранка поля пры заражонасьці сажаю глебы.

3) Выпальваньне на такім полі іржышча.

4) Высеў толькі сьпелага насеньня, бо недасьпеўшае менш трывалае супроць сажы.

5) Адбор на насеньне зярна найменш засьмечанага зароднікамі сажы.

6) Добры выраб поля, ужываньне мінэральнага ўгнаеньня для хуткага росту расьліны і г. д.

Для пасеву трэба падбіраць больш трывалыя супроць сажы сарты пшаніцы. Раней лічылі, што трывалых сартоў пшаніцы ня будзе, але зараз ужо такія сарты дасьледчыкі адзначаюць. Вядома, гэтыя назіраньні трэба весьці ў кожным раёне, бо прывозныя сарты ў адменных умовах росту могуць страціць трываласьць супроць сажы.

Усе гэтыя меры барацьбы можна з посьпехам ужываць і супроць *цьвярдой сажы ячменю, цьвярдой сажы аўса, часткаю пылаватай сажы аўса і сажы на жыце.*

С. Тупяневіч.

# Азімы чарвяк.

Хто з нашых сялян ня ведае, што такое азімы чарвяк і якую ён прыносіць нашым пасевам шкоду.

Нядарма ў беларускіх гаспадароў зляжыліся забабоны, што чарвяку трэба пасьвяшчаць некаторыя дні, а то і цэлы тыдзень — чарвіўку (з 15 па 22 жніўня па ст. стылю, калі шмат дзе ў нас лічаць нявольным рабіць пасеў азіміны). Наш селянін, бачачы шкоду ад чарвяка і ня ведаючы спосабаў змаганьня з гэтым ворагам, зьвярнуўся да забабонаў, каб пры дапамозе іх уміласьцівіць чарвяка.

У гэтым нарысе мы пазнаемімся з прыродай азімага чарвяка, яго жыцьцём і спосабамі змаганьня з ім.

Калі мы прыдзем на папсаванае чарваком поле, пакапаемся трохі ў зямлі, на самым краю лапіны—каля зелені, дык можам выкапаць некалькі шэрых чарвячкоў, таўшчынёй з гусінае пяро і даўжынёй каля 40 мілімэтраў (1 — 1½ вяр.). Вось гэтыя чарвякі і ёсьць тыя шкоднікі, якія папсавалі нашу азіміну. Бачыць іх можна на паверхні часамі і ноччу, бо яны жывяцца толькі тады, як пачне сьмяркацца, а як пачне сьвітаць, шкоднікі хаваюцца ў зямлю на тым месцы, дзе іх застала раніца.

Шкодзіць азімы чарвяк нашым палём толькі ўпачатку свайго росту, бо як пачынае старэць і вырастаць, ён зусім перастае, (або мала) есьць . Гэта дае думаць нашым гаспадарам, што азімы чарвяк прапаў, бо лапіны ў гэты час ужо больш не павялічваюцца.

Шкодзяць азімыя чарвякі нашым палям як у восень так і вясной. Часта можнаназіраць, як вясной стаяць голыя лапіны, якіх увосень ня было. Каб нашы гаспадары і тут пакапаліся, дык знайшлі-б тых самых шэранькіх чарвячкоў.

На зіму чарвякі закопваюцца на тых самых лапінах на глыбіню 3—4 вяршкоў і скруціўшыся зімуюць. Як толькі праменьні сонца пачнуць вясной больш сільна саграваць зямлю, чарвяк абуджваецца ад зімовае сьпячкі і ў ночы прыймаецца за сваю працу. Гэты пэрыяд жыцьця азімага чарвяка нядоўгі, усяго некалькі дзён, пасьля чаго ён пераатвараецца ў наступную стадыю — кулёк, які ляжыць нярухома і ня шкодзіць, бо гэтая стадыя чарвячка не патрабуе для свайго жыцьця спажывы.

Кулёк знаходзіцца ў зямлі на глыбіні 3—4 вяршкоў прыблізна месяц. Потым з яго вылятае матыль, які завецца азімай соўкай, або азімым начнікам.

Праз некалькі дзён, а пры спрыяючай пагодзе — цераз дзень — два пасьля вылету, матылі спарваюцца і хутка кладуць яечкі. Каб іх палажыць у надзёжнае месца, ма-

тыль лётае па нашым папары і шукае сабе расьлінку — сарняк, на лісьцёх якіх ён і адкладае белыя яйкі па аднаму, а часамі і па некалькі штук. У гэты час нашы папары бываюць пакрыты багатай сорнай расьліннасьцяй, якую як быццам наш гаспадар сумысьля разводзіць для прытулку свайго ворага.

З яечак цераз некалькі дзен, (ад 3 да 12) выходзяць чарвячкі — вусені, якія і псуюць нашу азіміну. Сьпярша яны сядзяць на тых-жа расьлінках і жывяцца лісьцём сарнякоў нашых папараў, а цераз тыдні 3—4 ён вырастае, хаваецца ў зямлю, скуль вылазіць на паверхню толькі паласавацца зеленьню.

У гэты час нашы папары заворваюцца, чарвяку нечага рабіць на чорным папары і ён перапаўзае да межаў, дарог, равоў, дзе чакаець руні.

Часам можна заўважыць, што чарвякі павыгрызалі зярнё, гэта значыць, яны не дачакалі руні. З гэтаго часу пачынаецца найшкадлівейшы для нашых палёў пэрыяд жыцьця азімага чарвяка. З прагавітасьцю яны кідаюцца на рунь, зьнішчаючы яе з кожнай ноччу ўсё больш і больш.

У гады найбольшага разьвіцьца азімага чарвяка, ня ўсе месца роўна паражаны азімым чарвяком. Бывае, што адна вёска шмат пацярпела ад азімага чарвяка, а побач — ня чэплена. Бывае, што на адным полі адно месца зусім зьедзена азімым чарвяком, а недалёка — азімы чарвяк ня робіць шкоды.

Гэтаму шмат прычынаў. Выпадкова зробленае раней ці пазьней заворваньне пустазельля на папары не дае шкодніку прытулку. Гатунак глебы можа спрыяць або перашкаджаць зьяўленьню чарвяка. Заўважана, што поле, пакрытае расьлінамі, якія красуюць у часе лёту матылёў, больш вабяць іх для адкладкі яек, і такое месца і больш церпіць ад азімага чарвяка.

**Меры барацьбы з чарвяком.** Як з кожнай хваробай, так і з нашым шкоднікам лепш змагацца папярэджаючымі мерамі. Мы бачылі, што пустазельле нашых папараў, на межах, дарогах дае прытулак ворагу нашай азіміны. Натуральна, што тут сама па сабе напрашваецца думка, каб гэтыя сарнякі усунуць з поля. Замена сорнага папару на чорны, касаваньне непатрэбных межаў, частае скашваньне дарог і узроўкаў—вось будуць самыя адпаведныя папераджаючыя меры.

Далей—назіраньне за жыцьцём нашага ворага паказала, што чарвяк ня любіць густой зелені, на якой ён не адкладвае яек. Дык і заняты папар, як відзім, будзе лепшым ад сорнага ў сэнсе змаганьня з азімым чарвяком.

Трэба адзначыць, што чорныя і занятыя папары лепш за нашы сорныя ня толькі ў сэнсе змаганьня з чарвяком,

але гэтыя папары лічацца культурнымі, бо пры дапамозе іх мы ня толькі папярэджаем зьяўленьне нашага ворага, але і павялічваем ураджай.

Калі нам ня ўдалося завесьці чорны ці вікааўсяны папар, дык змагацца трэба з чарвяком сваячасным заворваньнем папару з пустазельлем. Трэба выбраць час, каб поле загараць перад самай пакладкай яек, або калі ўжо матылі скончылі пакладку яек і вышлі маладыя вусені. Тут, заворваючы пустазельле, мы нішчым нашых шкоднікаў.

Але недахопы гэтага мерапрыемства наступныя: трудна выбраць час заворваньня, небясьпечна, каб не зпазьніцца, трудна прасачыць, калі пачне класьці матылі яйкі. Звычайна назіраюць за сарнякамі,—як толькі на лісьцёх пачнуць зьяўляцца дзюрачкі ад пракусаў чарвячкоў, трэба зараз-жа папар заворваць.

Калі не ўдалося нам завесьці чорны або вікавы папар, ці на сорным папару зьнішчыць азімага чарвяка разам з пустазельлем, дык прыходзіцца абараняць яшчэ непапсаваныя часткі руні ад чарвяка раўкамі. Для гэтага на лапіне, якую зрабіў чарвяк, адступаюць шаг у непапсаваную частку і капаюць 4-х вяршковыя ў глыбіню раўкі з простападнымі сьценкамі. На дне раўка робяць яшчэ, таксама з простападнымі сьценкамі, ямкі праз кожныя 3 сажні. Чарвячкі, трапіўшы ў раўкі, шукаюць выйсьця і, паўзучы ўдоўж раўка, пападаюць у ямкі, дзе зьбіраюцца і дзе іх можна зьнішчыць. Для пасьпеху змаганьня з чарвяком, трэба абавязкова раўкі і ямкі рабіць з простападнымі сьценкамі, якія часта папраўляць, бо, ў праціўным разе, чарвяк можа выпаўсьці.

Каб папярэдзіць пашырэньне чарвякоў, раўкі трэба рабіць як толькі пачнуць зьяўляцца ад шкоднікаў пустыя лапіны.

У Расеі шмат дзе змагаюцца з чарвяком патакай. Для гэтага бярэцца горшы гатунак патакі, разводзяць яе вадой (1 частка патакі і 3 — 4 часткі вады) і дадаюць трохі дражджэй. У патыцы пачынаецца сьпіртавае бражэньне, ад чаго выдзяляюцца пахучыя газы, якія і вабяць матылі. Азімая соўка, прываблёная пахам газаў, прылятае да патакі і тут здыхае.

Такую патаку разьліваюць у начоўкі і ставяць на аршынных вышынёй слупкох. Аднэй начоўкі хватае на 1 дзесяціну. Патаку налiваюць тонкім пластом. Кожную раніцу мёртвых матылёў трэба выкідваць з начоўкі. У гарачыню да патакі трэба даліваць вады, а пасьля дажджу — трэба падліць патакі.

Час для выстаўленьня начовак з патакай трэба выбіраць да пачатку вылету матылёў, што ў нас бывае, прыблізна, у пачатку чэрвеня месяца. **У. Павалковіч.**

# Барацьба з хваробамі жывёлы калектыўнымі сіламі вёскі.

У барацьбе з рознымі хваробамі хатняе жывёлы шмат што могуць зрабіць калектыўныя сілы нашай вёскі, аб'яднаўшыся ў тыя альбо іншыя арганізацыі. Сюды адносяцца, напрыклад, каапэратывы, гурткі т-ва Бел. Школы, гурткі Інст. Гасп. і Культуры.

Што-ж могуць зрабіць гэтыя арганізацыі?

Па-першае, яны могуць узяць на сябе задачу — шляхам арганізацыі бясед і лекцый ў хатах-чытальнях з запрошаным вэтэрынарным урачом, абвясьціць усё насельніцтва даннага раёну аб формах і характару хвароб дамовай скаціны. На гэтых бяседах сяляне могуць даведацца і аб усіх сродках барацьбы з гэтымі хваробамі.

Па-другое, вышэйпамянёныя арганізацыі могуць арганізаваным шляхам весьці барацьбу з хваробамі хатняе жывёлы. Так, каб не разнасілася зараза, яны могуць пабудаваць па ўсім правілам навукі могілкі для жывёлы, куды-б адвозіліся трупы паўшай жывёлы.

Яны могуць з ведама вэтэрынарнага ўрача выдаць правілы па ўходу за хворай жывёлай. Гэтыя правілы ўсе павінны выконваць, пры чым тых гаспадароў, якія парушаць гэтыя правілы, можна прывесьці да адказнасьці.

Калі ў якой-небудзь мясцовасьці вельмі распаўсюджаны хваробы авечак, якія залежаць, галоўным чынам, ад сырой пашы, гэтыя арганізацыі могуць узбудзіць сярод сялян пытаньне аб асушцы гэтай пашы і адпусьціць дзеля гэтага (узаемна) некаторую суму з сваіх касаў.

У выпадку зьяўленьня пошасных хвароб сярод жывёлы, гэтыя арганізацыі сваімі калектыўнымі сіламі лягчэй усяго могуць весьці з імі барацьбу і іх сябры хутчэй усяго могуць запрасіць вэтэрынара, хутчэй усяго могуць закупіць на агульныя сродкі тыя ці іншыя лекі і інструмэнты, купіць кнігі па хваробам скаціны, арганізаваць агульны карантын для хворай жывёлы і арганізаваць лекцыю, ці бяседу з вэт. урачом сярод сваіх сяброў і г. д.

Шмат што можа зрабіць па барацьбе з хваробамі скаціны найбольш энэргічная і маладая арганізацыя. У часе павальных падзяжоў, яна можа ўстанавіць сталае дзяжурства сваіх сяброў на вёсцы, ці ў цэлым шэрагу вёсак для назіраньня за вывазам паўшай жывёлы, за ўсімі захоўваючымі супроць захвараваньня мерамі, за выкананьнем правілаў вэтэрынарнага нагляду, за сталаю сувязьзю паміж насельніцтвам і вэт. урачом і г. д. Адным словам, усе калектыўныя вясковыя арганізацыі, аб'яднаў-

шыся, маглі-б правесьці ў жыцьцё наступны плян барацьбы з хваробамі жывёлы:

1) Арганізацыя лекцыі і бясед з вэт. урачом сярод акружаючага насельніцтва аб хваробах скаціны.

2) Правядзеньне мер прадахоўваючага характару: пабудова скоцкіх магільнікаў, ачыстка памяшканьняў, дэзынфэкцыя іх, закупка і разьмеркаваньне сярод насельніцтва розных прадахоўваючых сродкаў — захоўваньне ўсіх правілаў вэтэрынарнага нагляду, рэгулярны ад часу да часу абход сялянскіх двароў і дача тут тых ці іншых паказаньняў і г. д.

У часе хваробы — сталая сувязь з вэтэрынарам, назіраньне за паражонымі дварамі, вываз паўшай скаціны, назіраньне за рухам хваробы, раздача насельніцтву мэдыкамэнтаў, дача паказаньняў — як лячыць захварэўшую скаціну і інш.

Дзеля правядзеньня ў жыцьцё ўсіх вышэй памянёных мерапрыемстваў, вясковыя каляктыўныя арганізацыі на агульным сходзе выбіраюць упаўнаважаных асоб (вэтэрынарных апякуноў), якія і павінны сачыць за ўсімі мерапрыемствамі па барацьбе з хваробамі скаціны.

Калі на барацьбу з хваробамі жывёлы выступяць усе вясковыя каляктыўныя сілы, тады ніякая хвароба селяніну ня будзе страшнай.

У аб'яднаньні — магутнасьць.

Вэтэрынарны ўрач **М. Жарын.**

# Бярлінскі таполь—матар'ял для будоўлі і апалу.

Яшчэ ў 1880-м годзе ў адной з сельска-гаспадарчых часопісей быў зьмешчаны артыкул наконт карыснага разьвядзеньня Бярлінскага таполя. Гэты таполь, як азначалася ў часопісі, у шматлікай колькасьці разводзіцца ў Нямеччыне. Кожны хутаранін там выкарыстоўвае гэтае хуткарастучае дрэва, як для абсадкі садоў, так і будынкаў ад учынку ветру. Дадатнымі бакамі такога таполя зьяўляецца, папершае, тое, што ён не баіцца марозаў, падругое, займае малое месца па плошчы і пасьля высечкі ізноў хутка адрастае.

Прачытаўшы такі артыкул, я вельмі зацікавіўся ім і зразу-ж стаў думаць аб тым, як-бы і мне разьвясьці такога таполя. Па радзе аднаго знаёмага доктара я зьвярнуўся з просьбаю да Пятроўска-Разумоўскай Акадэміі, зараз Ціміразеўскай, аб тым, каб яна мне прыслала галінак (таранкоў) гэтага таполя. У хуткім часе я атрымаў некалькі галінак таполя, якія і пасадзіў. Галінкі прыня-

ліся і хутка пачалі расьці. Так, за 20 гадоў я ўжо маю будаўляныя бярвеньні, з якіх магчыма будаваць халодныя будоўлі, як хлеў, гумно і інш. Адзначу яшчэ і тое, што па сваёй моцнасьці яны слабейшыя за хвою, і ў гэтым выпадку падобны да асіны. Пераканаўся і ў тым, што гэтыя таполі не разрастаюцца так раскідзіста, як іншыя пароды і не баяцца буры. Наогул, я застаўся вельмі здаволеным разьвядзеньнем такога таполя.

Ня гледзячы на тое, што гэтыя таполі растуць на волі, аднак-жа яны, як і ўсё (той-жа пароды) маюць нераскідзістую карону. На вышыні 2-х аршын таўшчыня ствала мае ў акружнасьці 130 сантымэтраў. З такога таполя магчыма атрымаць бервяно ў 4 саж. даўжынёю, якое будзе прыгодным для будоўлі. Садзіў я таполі і густа і рэдка, але-ж яны вырастаюць амаль што аднака —тонкія і высокія.

Аб гэтым-та карысным дрэве я і хацеў падзяліцца з чытачамі часопісі „Плуг", якім раю засадзіць ім няўжытковыя землі і як прысады навокал будынкаў і садоў.

Плуг № 7 1928г.

Селянін-дасьледчык. **Я. К. Мароз.**

# Перахоўваньне фруктовых пладоў.

Гаспадар — садоўнік мусіць ведаць ня толькі як вырасьціць плады на дрэве, але як належна іх перахоўваць, каб выждаць больш лепшай цаны.

Перахоўваюцца на доўгі час лепей толькі плады позных гатункаў. Труднасьць у перахоўцы фруктовых пладоў заключаецца ў іх вадзяністасьці, ад чаго яны хутка псуюцца, загніваюць. Першай задачай садоўніка тут і будзе, каб фруктовыя плады выпарылі частку вады. Дзеля гэтага сабраныя фрукты ў сухую пагоду зносяцца ў добра праветрываемае памешканьне і раскладаюцца на сухой і чыстай саломе ня тоўстым слоем, дзе яны ляжаць так каля 2-х тыдняў, пасьля чаго іх варта перанесьці ў памешканьне на зіму, дзе не павінна быць ні сырасьці, ні духаты, ні раптоўных зьмен тэмпэратуры і каб тут не перахоўвалася бульба, капуста, буракі і іншыя. Апошнія могуць дрэнна ўплываць на арамат фруктаў і гэтым іх абязцэньваць.

Памешканьне для перахоўкі на зіму фруктаў трэба перад гэтым акурыць серкай; на зямлю ставяць некалькі пасудзін з гарачымі вуглямі, на якія пасыпаецца серка, пры чым у памешканьні закрываюцца ўсе дзюркі, а чалавеку трэба старацца ўхіляцца ад удыханьня пароў. Цераз два дні памешканьне праветрываецца і ўносяцца плады, якія кладуцца на спэцыяльна прыгатаваных шмат павярховых

паліцах. Пасьля ўкладкі пладоў радамі, дзьверы і вокны некаторы час павінны быць адчыненымі для зьнішчэньня сырасьці, якая ўсё яшчэ выходзіць з фруктаў. Прыблізна цераз тыдзень, выпарваньне сырасьці з яблыкаў зусім спыніцца і тады шчыльна зачыняюць дзьверы і вокны, каб не дапусьціць да памешканьня новага паветра, сырасьці, сьвету і цяпла. Дзьверы час ад-часу трэба адчыняць, каб зьмяніць папсаванае паветра. Тэмпэратура такіх памешканьняў павінна быць нізкая, каля 2—4° R. цяпла: ніжэйшая шкодна, каб яблыкі не замерзьлі, а вышэйшая выклікае псаваньне фруктаў.

Адчыняць дзьверы для частага праветрываньня памешканьня бывае рызыкоўна, дзеля чаго для ўдаленьня сапсаванага паветра і сырасьці некаторыя садоўнікі ужываюсь хлорную вапну, якая шпарка прыцягвае да сябе сырасьць і гэтым самым абязшкоджвае памешканьне. Хлорыстая вапна, па высушцы яе, можа быць ізноў ужыта. У часе перахоўкі фруктаў можна будзе ізноў абкурыць памешканьне серкай, што бязшкодна для фруктаў і што забівае ў памешканьні розныя заразныя грыбкі.

Яблыкі і грушы, перахоўваемыя такім чынам, добра ляжаць да вясны, а то і да самага лета, што дае магчымасьць карыстацца фруктамі цэлы год і дачакаць высокай цаны на іх.

**Садоўнік-Практык.**

# Парады для пачынаючага пчаляра.

## Што рабіць са слабымі пчаламі ўвосень.

Настае восень. Краскі на травах ператварыліся ў плады; насеньне, пчолам з кожным днём прыходзіцца аблётваць большы і большы абшар, каб сабраць з пазьніўшыхся красак нектару. Спраўныя пчолы ўжо даканчваюць наліваць мёдам соты на зіму. Але побач са спраўнымі пчоламі ад шмат якіх прычын мы спатыкаем і слабыя сем'і, якая займае ўсяго 2—3 рамкі ў вульлі і якім не ўдалося сабраць мёду на зіму. Такім пчолам, каб даць магчымасьць ім пражыць зіму і выйсьці вясной на збор мёду, трэба прыйсьці пчаляру з дапамогай.

Як толькі будзе страчана ўсялякая надзея на тое, што пчолы пасільнеюць і пражывуць зіму, пачынаючы пчаляр становіцца ў труднае палажэньне і мусіць зварачвацца да больш практычных пчаляроў за парадай.

У даным выпадку пчаляр мусіць усіх слабых сямей злучыць па дзьве, ато і па тры разам. Гэткім парадкам робіцца адна сільная сям'я, якая лепш пераносіць зіму, менш патрабуе корму, чым 2—3 сям'і па асобку. Слабая-ж

сям'я часам і можа перанесьці зіму, але вясной выходзіць яшчэ больш аслабеўшай, з якой пчаляру карысьці чакаць трудна.

Так заўсёды паступаюць пчаляры там, дзе пчальнік, як кажуць, даведзены „дакамплекту“, гэта значыць, што пчаляр мае на мэце не павялічэньне ліку вульляў, а атрыманьне як найбольш мёду. Тут прыходзіцца аставіць на зіму некалькі пустых вульляў. Рамкі з вузой з пустых вульляў пчаляр можа ўжыць вясной або для дзяльбы пчол, або для вываду матак, або для іншых мэтаў.

Іншая справа, калі пчаляр зацікаўлены ў павялічэньні ліку вульляў, якія ён думае прадаваць. Тут можа пчаляр ствараў сумысьля адпаведныя ўмовы для дзяленьня раёў.

Каб усіліць слабыя раі к зіме, пчолаў падкармліваюць. Пачынаюць падкармліваць яшчэ тады, як канчаецца галоўнае медабраньне. Адпаведным кормам служыць жыдкая цукровая сыта. Даюць невялікімі порцыямі. Зразумела, што матка павінна быць плодная і нястарая.

Як скончыцца багатае мёдабраньне, а ў пчол мёду мала на зіму, дык трэба ўставіць ад другіх пчол некалькі рамак з мёдам, а калі такіх рамак чамусьці даць нельга, або іх няма, дык можна замяніць мёд цукровай сытай, але ўжо ня жыдкай, а густой і даваць памногу, па 3 — 4 ф. зараз, пакуль пчолы нязробяць сабё запасу. Жыдкай сытай падкармліваць па сканчэньні мёдабраньня і на зіму нельга, бо пчолы перад зімой могуць адкладваць чэр, што бязумоўна непажадана. Таксама падкармліваюцца і сільныя пчолы, але са слабым запасам мёду.

Перад надыходам зімы такіх пчолаў трэба як найцяплей накрываць падушкамі, а пустыя месцы ў вульлі запіхаць саломай. На зіму вульлі са слабымі пчоламі лепш унясьці ў цеплую будыніну — вулёўнік, а не пакідаць іх на ветры на двары. Вясной за такімі пчоламі павінен быць пільны дагляд, каб яна як найхутчэй увайшла ў сілу.

Часам бывае патрэбна зусім слабыя пчолы далучыць да сільнай, асабліва такія сем'і, якія страцілі матку.

*Пчаляр.*

---

# Гаспадарчыя парады.

**Пытаньне.** Дзе можна дастаць касьцяной мукі для кур, і ці можна яе прыгатовіць самому? **А. В.**

**Адказ.** Касьцяную муку можна прыгатовіць самому дома, калі косьці дробна пасеч і змалоць. Для мяленьня касьцей ёсьць спэцыяльныя млынкі, але за бракам іх можна ухітрыцца перамалоць дробна пасечаныя косьці і на звычайных вясковых жорнах.

**Пытаньне.** Куры ліюць яйкі. Як гэтаму памагчы?

**В. Кот.**

**Адказ.** Трэба ведаць прычыну „ліцьця“ яек. Большай часткай тут служыць прычынай брак вапны у корме, хваробы яйцавых органаў курыцы і іншыя. У першым выпадку памагае дача ў корм меленых касьцей — 5 гр. на штуку, або тынку старога, дробна патаўчоных шкарлупінак з яек. Паша такім курам павінна быць багатай бялком, як зярно з вапнай. Старых курэй — больш 3 гадоў дзяржаць ня варта. Пры хваробах яйцавых органаў, лекі бадай што не памагаюць і такую курыцу лепш не дзяржаць.

**Пытаньне.** На якую глыбіню трэба садзіць пладовыя дрэўцы?

**А. Касаты.**

**Адказ.** Шыйка, ці граніца ствала з каранямі мусіць быць на роўні з паверхняй зямлі. Глыбока пасаджанае дрэва ня мае магчымасьці сваімі каранямі дастаць паветра і цяпла. Дрэва тады расьце слаба, абрастае хутка мохам, церпіць ад марозаў, галінкі засыхаюць і дрэва нарэшце гіне.

**Пытаньне.** Парадзьце, чым лячыць сьвіней, заражоных рыбакамі (глісьнікамі).

**Адказ.** Рыбакі нападаюць часьцей на маладых сьвіней, хаця бываюць і ў старых. Добра такім сьвіньням даваць 3 разы ў дзень атвар цэніваннага насеньня, або прэпарат з яго, што завецца „сантанін“. Можна дастаць у аптэцы.

**Пытаньне.** Ці можна пасьвіць курэй у саду, бо я за садам пільна даглядаю і лічу ў сябе садоўніцтва за вельмі карысную галіну?

**М. Сэцкі.**

**Адказ.** Ня толькі можна, але і трэба. Даказана, што 400--500 курэй за адзін дзень могуць пералавіць усіх шкоднікаў саду, што жывуць у зямлі на абшары 1 гэк Ня можна пускаць курэй у сад толькі ў той час, як зьявяцца на ягадных кустох ягады, да якіх куры вельмі ласы

**Пытаньне.** Парадзьце, чым можна падфарбоўваць масла?

**Адказ.** Летам, калі каровы пасуцца на зялёнай пашы, масла атрымоўваецца звычайна з прыемным на вока колерам. Зімой, з пераходам на корм сухі, масла бывае часта нават зусім белым.

Заграніца, а роўна і наш унутраны рынак часта патрабуе масла з прыгожым залацісто—жоўтым колерам. Каб дагадзіць рынку, гаспадар часта мусіць свае масла падфарбоўваць. Зазначаем, што штучны колер якасьці масла не паляпшае.

У гандлю спатыкаюцца шмат фарбаўнікоў масла, але нельга ўсіх іх назваць добрымі, бо некаторыя адбіваюцца на паху і смаку масла, а некаторыя нават, будучы прыгатаваны на аналіне, могуць быць шкоднымі для арганізма чалавека.

Масларобы—практыкі лічуць найлепшым фарбоўнікам масла *ораленовы*, бо ён ня мае паху, злучаецца не з масьлянкай, а толькі з маслам і дае маслу залаціста-жоўты колер. Прыгатаўляецца гэты фарбоўнік з лускі пладоў асобага дрэва, растучага ў Амэрыцы. Распускаецца у канапляным, ільняным алею. Фарбоўнік ораленовы трэба прагатаўляць, распушчаючы яго ў названых алеях, ў зімным і цёмным месцы, бо ў праціўным выпадку хутка псуецца і можна папсаваць масла.

**Пытаньне.** Як адганяць кратоў? **Д. Хмара.**

**Адказ.** Некаторыя гаспадары раюць адганяць кратоў з гароду пасадкай сонечнікаў, каторых крот быццам ня любіць. Можна у поры класьці чаго-небудзь сьмярдзючага, як напр. часнаку, кавалкі сьмярдзючага мяса, шпікунар, наф алін і г. д.

Кратоў забіваць ніколі ня варта, бо ён рыючыся пад зямлёй, хаця і робіць некаторую шкоду, але затое зьнішчае шмат розных шкоднікаў, а гэтым ён прыносіць вялізную вам карысьць.

**Пытаньне.** Як змагацца з мурашкамі ў саду?

**Ю. Мацук.**

**Адказ.** Мурашнікі трэба раскапваць, пасыпаць нафталінам, або нафтай і потым выпальваць.

**Пытаньне.** Як нішчыць вугры на скуры каровы?

**А. Антановіч.**

**Адказ.** Вугры на целе каровы зьяўляюцца ад росту кукончыкаў аваднёў. Летам у гарачыню авадні пракусваюць скуру каровы і адкдаюць там яечкі, з якіх разьвіваецца кукончык, а на другое лета і дарослы авадзень.

Каб папярэдзіць адкладку яек на скуры жывёлы, трэба ў час адкладкі яек аваднём, карову чысьціць і мыць, чым нішчацца яйкі. Калі-ж ужо вугры стварыліся, кукончыкі трэба выціскаць пальцамі або выцягваць кручкаватымі шпількамі і іх нішчыць.

**Пытаньне.** 1) Засеяная па ячмені ў сёлетнім годзе канюшына рэдка абышла, а месцамі і зусім ня відаць. Што з ёй рабіць?

2) Дзе можна дастаць саджанак каўказкага жывокосьніка?

3) Што такое за расьліна соя і ці варта яе разводзіць? **К. Шаўлюга**

**Адказ.** 1) Канюшына, пасеяная па ячмені рэдка калі ўдаецца, бо яна для свайго прарастаньня патрабуе шмат вільгаці, якую больш далі-б азіміны, калі ў апошнюю падсеяць канюшыну, як толькі зыйдзе сьнег. Сёлета канюшына на Віленшчыне асабліва ў паветах: Дзісьненскім, Пастаўскім, Браслаўскім і Сьвянцянскім рэдка абашла і слаба кранулася ў рост дзякуючы летняй засусе.

Трэба пачакаць і паглядзець, як яна будзе разьвівацца пасьля жніўскіх дажджэй. Калі ўвосень ня будзе надзеі на яе ураджай, лепш узараць і поле заняць другой культурай.

2) Пра Каўказкі жывакосьнік давалі парады ў 1927 г. за пакупкай зьвярніцеся да Związku Kółek Rolniczych (Wilno W. Pohulanka 7)

3) Аб соі думаем пісаць спэцыяльны артыкул.

## Праўныя парады.

**Пытаньне.** Пастарунак паліцыі часта ад сялян вымагае фурманкі. Не разьбіраючыся ў абавязках і правох паліцыі і баючыся наразіць сябе на апказнасьць, мы даём фурманкі. Ці мае права на гэта паліцыя?

**Я. Сярчук.**

**Адказ.** Згодна наказу галоўнага камэнданта паліцыі з дня 24.VII.1919 г., выданага на падставе акульніка Міністра Унутраных Спраў з дня 27.XII.1918 г. за № 2639/11868 пастарунковы ня мае права самастойна жадаць фурманкі, н мае таксама права даваць загад солтысу аб вызначэньня фурманкі.

Калі-ж фурманка патрабуецца нагла дык пастарунковы мусіць злажыць солтысу пісьменную заяву, з вызначэньнем для якой мэты фурманка ўжываецца. Солтыс фурманку ў гэтым выпадку мусіць даць, а заяву паліцыі заразжа перадаць да ведама войту ў гміне, **бо паліцыя мае права вымагаць фурманкі толькі цераз гміну, а не солтыса.**

Паліцыя мае права на фурманкі пры наступных здарэньнях:

1) калі патрэбна прысутнасьць паліцыі пры стыхійных няшчасьцях, як паводкі, пажары і г. д.

2) Калі патрэбна злавіць злачынца, што ўцякае.

3) Для перавозу да суда або скарбу грамадзкіх рэчаў, якіх нельга нясьці, або пераслаць поштай.

4) Для перавозу арыштаваных, якія маюць права на фурманку: хворых, калек, дзяцей да 14 гадоў, матак з груднымі дзяцьмі. Але і гэтыя маюць права на фурманку па-

столькі, паскольکі стан іх здароўя і адлегласьць да мейсца дазваляюць.

5) Для перавозу асоб, якія на дарозе спаткялі няшчасьце, ці раптоўна захварэлі.

6) Апрача таго і па іншым службовым справам.

Вымаганьне фурманкі на пісьме паліцыянт павінен злажыць у гміне. Па выкарыстаньні фурманкі сялянін мае права патрэбаваць паквітаваньне.

Калі паліцыя не выконваа гэтых правілаў. дык яму можна спакойна ў фурманцы адмовіць і параіць зьвярнуцца за гэтым да гміны.

У выпадку насільства з боку паліцыі, можна падаць на яе жалабу проста Міністру Унутраных Спраў, але каб пры гэтым былі вызначаны верагодныя сьведкі.

**Пытаньне.** Ці мае права з СССР вывесьці грошы ў чужой валюце мой брат, які намерваецца прыехаць у Польшчу?

С. А.

**Адказ.** Згодна толькі што агалошаных правілаў аб вывазе чужых валют з СССР, асобы выяжджаючыя заграніцу з СССР, маюць права вывесьці заграмічныя грошы і дарагія мэталёвыя рэчы на агульную суму 300 руб. з дадаткам 150 рублёў на кожнага сябры сям'і.

Асобы, уяжджаючыя ў СССР з намераньнем там часова ці назаўсёды астацца. маюць права вывесьці ці пераслаць у працягу 18 месячнага пабыту прывезеную валюту з адлічэньнем мінімальнага кошту ўтрыманьня за час пабыту ў СССР.

**Пытаньне.** Ці маем права на атрыманьне дапамогі рэзэрвістам і куды за гэтым зьвярнуцца? А. Ч.

**Адказ.** Зьвярніцеся да вайсковага рэфэрата гор. Вільні.

**Пытаньне.** Калі будуць браць падатак вайсковы з рэкрута 1928 г. С. Т.

**Адказ.** Рэкруты, якія былі ўзнаны ня здольныя да чыннай службы ў войску, ці залічаны да pospolitego ruszenia (kat. C i D), будуць плаціць вайсковы падатак, пачынаючы з 1 студзеня 1930 г.

# Рознае.

**Зьмена Амэрыканскіх даляраў.** Выймаюцца з абароту сучасныя банкноты (папяровыя даляры) Злучаных Амэрыканскіх Штатаў, якія замяняюцца на меншы фармат. Тэрмін, да якога маюць праўны ход сучасныя банкноты яшчэ не ўсталёны. Гэтым міністэрства фінансаў А. З. Ш. думае з'эканоміць што год каля 1 мільёна даляраў.

**Што было 20 000 гадоў назад на Беларусі.** Геолёгамі Савецкай Беларусі выкапаны некалькі дзесяткаў шкілетаў дапатомных зьвяроў—мамонтаў. Экспэрты налічваюць гэтым касьцям век каля 20.000 гадоў.

**Новаадкрыты мяккі камень.** У паўднёвай Армэніі савецкімі гэолёгамі адкрыты грамады каменьня, маючыя нязвыклыя яшчэ да гэтага часу і нячуваныя ўласьцівасьці. Камень гэты лёгкі, мягкі, параваты, не прапушчае ані цяпла, ані голасу і можа быць кроены ў розныя формы. Савецкі урад зацікавіўся гэтымі ўласьцівасьцямі новаадкрытага каменя і думае тасаваць яго ў шырокім маштабе для будаўляных мэтаў. Па апініі савецкіх гэолёгаў, камень паходжаньня вульканічнага.

## Наша пошта.

Д. **Хмары, І. Рагачу, І. Пупіну, Я. Астроўку.** Просьбу Вашу выканалі паўторна. Выслалі нумары „Сахі" з усімі дадаткамі.

**Філітовічу** А. Нумары „Сахі" і „Пчолы і як іх вадзіць" выслалі.

**Антановічу П.** Камплекты „Сахі" за 1927 і 1928 г. з дадаткамі выслалі Вам паўторна.

**Антановічу А.** Нумар з дадаткамі выслалі. Парады перадалі адвакату, хутка вышлем пісьмом.

К. **Шаулюге.** Просьбу Вашу выканалі. Парады дадзём у наступным нумары, бо у гэтым ня хапае месца.

А. **Самайлюку.** Пытаньне Ваша разглядае адвакат, параду даем пісьмом.

**С. Доўгачу.** Па шмат пытаньням рэдакцыя за бракам спэцыялістаў ня можа даць адказу. З пытаньнямі хваробы жывёлы, калі патрабуецца хуткая дапамога вэтэрынара— лепш зараз-жа зьвярніцеся да яго. Кабыла Ваша, трэба думаць, будзе і скідваць як зарожаная.

**Нехвядовічу М. Міхалевічу Я. Камоку** І. па 4 зл. у рэдакцыю „Сьвет" перадалі.

**Навіцкаму Грыгору.** „Руководства к малярным работам" выслалі. Другіх кніжак не знайшлі. 1 злот рэшты залічылі на падпіску 1930 г.

# ХРОНІКА.

## З краю.

**Новыя кніжкі.** Вышлі з друку: „Шум Баравы" — Васілёк, цана 1.50 гр.; „Веснапесьні"—А. Ільяшэвіч, цана 1 зл.; „Аснаўныя пытаньні марксізму, выд. Бел. Сял.-Раб. Клюбу, цана 2 зл. 50 гр.; „Пішы самадзейна" першая кніжка пасьля лямантара — С. Паўловіч, цана 2 зл. 50 цр.; „Як палепшыць пескавую глебу" выд. „Сахі", цана 40 гр.

**Польскі лямантар у беларускай мове.** Вышаў з друку польскі лямантар у беларускай мове, які быццам мае быць падручнікам у беларускіх урадавых школах.

**Канфіскаты.** Па загаду Гарадзкога Старасты канфіскаваны № 6 і 7 беларускае газэты „Сьвет" і № 1 „Вольная думка" орган беларускага паступовага студэнства. Апошнюю канфіскату Акружны Суд не зацьвердзіў.

**Няўдалая экскурсія беларусаў з Латвіі.** Вясной у Вільні чакалі беларусаў экскурсантаў з Латвіі, якія ня прыехалі быццам, дзякуючы не атрыманьню ад польскага консула ў Рызе візаў.

**Наша гарбарства.** Па весткам польскае прэсы, гарбарства ў нас ідзе шпаркім тэмпам да заняпаду.

Шмат гарбарняў апынулася пад Судом. Найвялікшы заняпад гарбарства назіраецца ў Віленшчыне.

**Віленшчына ізноў перад абліччам голаду.** Пасьля оптымістычных вестак аб добрым ураджаі ў нас на 1929 г., польская прэса зьмяніла тон і не выключае магчымасьці „недароду" на Віленшчыне.

Як нам пішуць, ураджай на Віленшчыне шмат дзе горшы, чым у мінулым годзе. Асабліва пацярпелі: Дзісьненскі, Браслаўскі, Пастаўскі і Сьвенцянскі паветы, дзе незадавальняючы збор азімых хлябоў і дзе амаль зусім прапала ярына. Гэта, як бачым, падрад трэці год голаду.

**Рэвізія ў памешканьні Цэнтральнага сэкрэтарыяту Бел. Сял.-Работ. Клюбу.** У нядзелю 25.VIII была зроблена паліцыяй рэвізія у памешканьні Ц. С. Б. С. Р. Клюбу. Частка рэчаў і папераў забрана. „Затрыманы" усе сэкрэтары павятовых сэкрэтарыятаў і частка супрацоўнікаў клюбу. Робяцца пратэсты і захады перад вышэйшымі ўладамі аб асвабаджэньне затрыманых, якіх пераслалі на „Лукішкі".

## Усходняя Беларусь.

**Дапамога сялянству пры асеньняй сяўбе.** Сёлета Урад савецкае Беларускае Рэспублікі мае аказаць вялікую дапамогу бяднейшаму сялянству пры наступаючай сяўбе.

Рэдактар і Выдавец **А. Уласаў.**

ЦК. Каміт. Сялянскай Узаемадапамогі плянуе 30 000 беднейшым гаспадаркам арганізаваць колектыўную дапамогу, ачышчае для сялян 864.000 пуд. насеньня і 22240 гаспад. абслугоўваюц пракатнымі машыннамі пунктамі.

**Рост калгасаў** (калектыўных гаспадарак). Назіраецца шпаркі рост калгасаў, якія вабяць сялян сваей арганізацыяй, прадукцыйнай працай і лепшымі ўмовамі жыцьця. Плян прадбачыў арганізаваць да 1 кастрычніка—156 новых калгасаў, але да 15 чэрвеня іх арганізавалася 227. У калгасы ідуць усе больш сьвядомыя сяляне, як бедната так і серадвякі. Усяго цяпер калгасаў у БССР.—570.

**Абсьледваньне калгасаў**. Беларускім навуковым Дасьледчым Інстытутам імя Леніна распачата шырокае і ўсебаковае абсьледваньне калгасаў БССР. Абсьледваньне праводзіцца пад кіраўніцтвам найлепшых навуковых сіл Дасьледчага Інстытута і Беларускае Акадэміі сел. гасп.

**Крэдыты на сел. гаспад.** Дзяржплян БССР. зацьвердзіў крэдыт на 4 квартал бягучага году ў суме 4,586,600 руб., з іх: на набыцьце с. г. машын—1.170.000 руб., на вапнаваньне зямлі 270 000 р., на электрыфікацыю сялянскіх гаспадарак — 970.000; на мэлеорацыю — 660.000 р., на ўпарадкаваньне мястэчак—200.000 р.

**Цукровыя буракі ў Б.ССР.** Даўней на тэрыторыіі Беларусі існавалі цукровыя заводы. Гэта падало думку савецкім спэцам зрабіць спробу з культурай цукровых буракоў на тэрыторыі Беларусі. У мінулым годзе, ня гледзячы на дрэнныя мэтэрэолёгічныя ўмовы, цукровыя буракі далі пажаданыя вынікі як па ўраджайнасьці, гэтак і па % цукру.

Згодна заявы проф. Ключарова, па прац. цукру буракі на Беларусі мала ўступаюць буракам Украіны, а па ўраджайнасьці могуць нават перавышаць.

Для свайго росту цукровыя буракі на Беларусі патрабуюць 160—170 безмарозных дзён. Як відаць з гэтых вельмі цікавых для нашае гаспадаркі досьледаў, для цукровых буракоў у нас няма перашкод ні з боку глебы, ні з боку клімату.

**Сёлетні ўраджай у БССР.** Паводле даных цэнтральнай статыстычнай камісіі пры Ц.С.У. стан азімых і яравых хлябоў у-ва Усход. Беларусі выш срэдні, значна большы чым у мінулым годзе. Разам, у гэтым годзе значна павялічылася плошча засеваў хлябоў.

**Падгатоўка да пасеваў азіміны.** Дастаўлена з дзяржаўнага насеннага фонду Р.С.С.Р —2728 цэнтэраў гатунковага жыта на насеньне для сялянскіх гаспадарак Беларусі.

**Племянная жывёла для БССР.** Урад БССР зрабіў вялізныя закупы племяной жывёлы і птушак за граніцай —у Нямеччыне, Даніі, Швэцыі, і Англіі.

**Птушніцтва на Усх. Беларусі**. Усходняя Беларусь зацікавілася птушніцтвам. Калгасы стаяць пасярэднікамі агрыкультурных мерапрыемстваў па ператварэньні малапрадукцыйнай сялянскай птушкі у высокаякасьную. Калгасы шпарка разьвіваюць дзейнасьць па дастаўцы птушак і яек як сялянам, так і заграніцу. Урад арганізаваў спэцыяльныя курсы па птушніцтву пры сёльска-гаспадарчае акадэміі. На курсы залічаліся пераважна сялянскія дзяўчаты і жанчыны.

## Беларускае жыцьцё у Латвіі.

**Дзень Беларускае культуры ў Латвіі.** У канцы траўня месяца адбыўся дзень Беларускае Культуры ў Латвіі. Сьвяткаваньне адбылося па ўсіх кутках, дзе былі беларусы. Сьвята адбылося надзвычайна урачыста. Аб Беларускай Культуры, аб беларускім быту загаварыла ўся латвіская прэса, прысьвячваючы гэтаму дню на старонках сваей прэсы пачэснае мейсца. Першы раз загаварыла прыхільна аб беларусах і расейская эміграцкая (манархічная) прэса. Толькі нешта ня чуваць было голасу польскае прэсы?

Калі узяць нязначны лік беларусаў у Латвіі (80,000 жыхароў), дык іх арганізацыя заслугоўвае пахвалы.

**Беларуская Гімназія ў Рызе.** 19 ліпня г. г. Міністэрства Асьветы зацьвердзіла статут беларускае гімназіі Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Рызе. Гэта у Латвіі будзе другая Беларуская Гімназія (першая ў Дзьвінску).

**Посьпехі беларусаў у Латвіі**. Ў пятніцу 28 чэрвеня адбыўся выпускны акт Рыскіх беларускіх вучыцельскіх курсаў. Дзьве зкончыўшых курсы вучыцялькі атрымалі права выкладаць у беларускіх школах у Латвіі латыскую мову.

**Беларуская Нацыянальная Рада ў Латвіі.** Дзеля аб'еднаньня працы ўсіх беларускіх арганізацый у Латвіі, стварылася Беларуская Нацыянальная Рада. Урад Латвіскай Рэспублікі прыхільна адносіцца да гэтага праэкту.

## Цэны у Вільні 25. IV. 1929 г.

| | |
|---|---|
| Жыта 100 кілёграмаў | 29.00 — 47.00 |
| Ячмень „ „ | 29.00 — 25.00 |
| Авёс „ „ | 28.00 — 26.00 |
| Бульба „ „ | 10.10 — 8.00 |
| Сена 100 кілёграмаў | 9.00 — 7.00 |
| Сыр вясковы „ | 1.60 — 1.00 |
| Цыбуля „ | 0.60 — 0.40 |
| Малако 1 літр | 0.45 — 0.35 |
| Сьмятана | 2.30 — 1.80 |

Амэр. даляр 8-92 — 8.88
Залаты рубель 4.60—4.57